„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI – CENA 60 gr.



# Ніва



№ 31 (75) БЕЛАСТОК, 4 ЖНІЎНЯ 1957 г. ГОД II



*«Калгас ля Магілянскіх гор» — чытай рэпартаж нашага карэспандэнта на стар. 3.*

## Пара пакончыць з апатыяй

Настала прыгожае лета. Цудоўная прырода прыбрала ўсё зеленню. Запах расцвіўшых ліп і язміну, лясная Белавежская прахалода рамантычна настройвае пр..езжага чалавека.

— Вось тут сапраўдны рай! — Жыць ды не паміраць, — думае ён. Але паспрабаваўбы ён пабыць хоць з адзін месяц у Белавежы. Тады не памагла-б яму і райская прыгожая прырода і вобраз руін царскага палаца. Шэрае манатоннае жыццё затрула-б яму ўсе салодкія ўражанні першых дзён.

— Ой, як нудна, — сказаўбы ён.

Субота, пасля поўдня. Маса моладзі выходзіць на вуліцы. Цікава, куды гэта яна накіроўваецца.

— Мабыць у святліцу, — узрадавана думаю. Не, гэта толькі мара. Моладзь абыякава праходзіць ля дзвярэй клуба.

У цэнтры Белавежы прыгожы будынак. Што гэта?! Ад здзіўлення чуць вочы на лоб не вылазяць. З дзвярэй гэтага будынка што-некалькі хвілін хістаючыся ды нешта балбочучы выхо..яць людзі.

Няўжо Псіхіятрычны пункт?

Ды не! Нешта надта многа пацыентаў.

На будынку шыльда «Гмінная спулдзельня — Бар».

Заходжу. Ад парога б'е ў нос непрыемнае тухлае паветра. Страшэнны шум, аж баляць вушы. Тры пакоі запоўнены да астатняга месца. Кожны стол увенчаны поўлітрам і марнаю закускай, часам нават мармалядай. Каля буфета цесната. Сумленнаму чалавеку не дастаць тут папяросаў, не гаворачы ўжо аб абедзе.

Мала якая субота ці нядзеля канчаецца тут мірна. Ваяўніча настроеныя адведвальнікі «Бара» заўсёды рашаюць свае справы бойкай. Гэта амаль адзіная дармовая «разрыўка» у Белавежы.

Праўда, ёсць яшчэ кіно. Цяпер можна не наракаць. Паказваюць лепшыя карціны. Але калі ідзе лепшая карціна, то дастацца ў кіно немагчыма. Усё ў руках кіраўніка кіно, грам. Саланевіча. Калі вы яму спадабаецеся, то атрымаеце білет, а так білеты толькі асобам выбраным — а вы можаце ісці спаць.

А ці акрамя кіно нічога больш няма? Ёсць-жа яшчэ клубы. Ды на бяду застаўся толькі адзін клуб і той бывае адкрыты адзін, два разы ў нядзелю. Дабавім, што ў гэтым клубе нічога цікавага няма — брудна, ды нудна.

У выніку таго, толькі адны дзверы шырока адкрыты — дзверы бара. Моладзі засталося выбіраць — ці шліфаваць тратуары, ці ісці і ўтапіць свой смутак у кілішку. І большасць выбірае гэта другое.

Чаму такая бязраднасць і апатыя? А можа гэта прыпадковы збег абставін.

Раней было зусім інакш. Было куды пайсці. Была арганізацыя ЗМП, з голасам якой мусілі ўсе лічыцца. Нічога дзіўнага, што ўсе аб'екты культурнага жыцця, як, напрыклад, Дом людовы, былі ў веданні моладзі. Дом людовы быў цэнтрам культурнага жыцця і атракцыяй. Добра сарганізаваныя вечары, з выступленнямі белавежскага хору, канчаліся заўжды добра сарганізаванай забавай. Дом людовы быў месцам, дзе можна было пачытаць, паслухаць радыё, палыскутаваць, а таксама патанцаваць.

Нічога дзіўнага, што моладзь ахвотна туды ішла. На забавах не было хуліганскіх выбрыкаў і бояк.

Адным словам, усё было добра да таго, часу, калі Дом людовы пераняло Акруговае праўленне кіно. Вось ад таго часу ўсё і пачалося. Як-бы ад помаху чарадзейскай палачкі, культурнае жыццё ў Белавежы стала заміраць, і зусім замерла, калі распалася ЗМП. Усе спробы сарганізаваць які-небудзь вечар у Доме людовым напатыкалі на станоўчы адпор з боку кіраўніка кіно, грам. Саланевіча.

— Або я, або хто тут гаспадар, — заяўляў ён. Калі будзеце марочыць мне галаву, то прыб'ю крэслы вялікімі цвікамі і канец.

Так і сталася. Прыбітыя крэслы адбілі ахвоту моладзі рабіць што-небудзь. Дом людовы перастаў быць цэнтрам культурнага жыцця. Распаўся гурток мастацкай самадзейнасці і белавежскі хор — былы любімец белавежскай публічнасці. Не памагло і тое, што шэфства над ім узяло Рускае культурна - асветнае таварыства.

Праўда, гэтая вясна прадказвалася як найлепш. Нават усе ўзрадаваліся, калі пачулі, што шэфства над культурным і спартыўным жыццём узяў Раён дзяржаўных лясоў. Ён прыняў абавязанні: адрэмантаваць басейн, забяспечыць футбольную каманду транспартам для выездаў, пабудаваць «патэльню». А грам. Янка Валкавыцкі атрымаў дазвол пабудаваць, так званае вясёлае мястэчка.

І што-ж аказалася. Наколькі пачатак быў добрым, то канец не вельмі вясёлым. Басейн далей руйнуецца, і не далей як праз год, застануцца толькі ўспаміны, аб тым, што некалі ў Белавежы быў прыгожы басейн. Футбольная каманда вылучана з «разгрывак» за пройгрышы «валькоўэрэм». Прычына — брак транспарту. Аб лодках і лодачнай станцыі ні слыху ні дыху. «Патэльня» пабудавана, толькі, нажаль, праход людзям туды закрыты. Тамжа вельмі добра каровам алганяцца ад камароў, выгадна ляжаць. Тое самае і з «вясёлым мястэчкам». Нічога там вясёлага не пабачыш і не пачуеш. На эстрадзе нічога не адбываецца. Памысловыя школьнікі хутка зрабілі з гэтага ўжытак. На эстрадзе ад рана да вечара гуляюць у карты, а за стражніцай вельмі добра хавацца ад вакон школы і пакурыць.

Ці можна далей мірыцца з такім станам спраў? Ці не пара прыняць канкрэтныя меры. А ў Белавежы ёсць на гэта магчымасці.

Большасць моладзі ў Белавежы мае сярэднюю адукацыю, а ў некаторых выпадках і вышэйшую. Цэлы шэраг установ, як Раён дзяржаўных лясоў, Лясны бадаўчы інстытут, Упраўленне парка, Лясное тэхнікум і г. д. сведчаць аб тым, што тут жывуць людзі з высокім культурным узроўнем. А гэта значыць, што ёсць усе ўмовы каб выйсці з такога становішча.

Настаў час пакончыць з апатыяй і бракам ініцыятывы. Хочам зноў пачуць прыгожыя і зразумелыя нам, беларускія песні ў добрым выкананні нашага хору. Хочам зноў бачыць на сцэне гурток мастацкай самадзейнасці з лепшым яго артыстам грам. Саланевічам, з рэпертуарам блізкім беларусам! Хочам, каб стадыён і басейн сталі зноў месцам спартыўных схватак здаровых, лепшых і зручных, а такжа месцам прыемнай «разрыўкі» публікі! Хочам бачыць, як прадстаўнікі Раёна дзяржаўных лясоў, адкрываюць лодачную станцыю і робяць праход на «патэльню», і падзіўляюць белавежскіх плыўцоў на дарожках адрамантаванага басейна. Хочам бачыць, як ПГРН і МО ў Белавежы ператвараюць «кнайпу» і прытулак хуліганаў у праўдзівы «Бар».

Хочам, каб уся грамадскасць Белавежы дапамагла моладзі.

Мы павінны помніць, што ў будучыні Белавежа будзе не толькі краёвым, але і міжнародным асяродкам турыстыкі. А што аб нас беларусах пражываючых у Польшчы, скажуць усе — залежыць ад нас самых.

М. ТАРАСЕВІЧ

ШТОТЫДНЕВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА



# Калгас ля Магілянскіх гор

(Ад нашага карэспандэнта).



*Адна з калгасных ферм*

Ці бывалі Вы калі-небудзь на Магілянскіх горах?

Не? Шкадуйце тады. Яны не так ужо і далёка ад нашай Беласточчыны. Раздзяляе іх ад нас усяго толькі дзяржаўная граніца, ля Крынак.

Вось менавіта ля гэтых гор ляжаць шырокія палі калгаса ім. Сталіна, аб якім хачу Вам, дарагія чытачы расказаць.

Старшыню калгаса, Пятра Іосіфавіча Дзеншчыкава мы сустрэлі ў полі. Ён адвячоркам праходзіў па роўненькай польнай дарожцы абапал якой быццам сцяна стаяла высокае жыта.

— Даспявае, — сказаў ён, прывітаўшыся з намі. — Хутка будзем пачынаць уборку.

Пятро Іосіфавіч аказаўся надзвычай ветлівым і гаворкім чалавекам. Яго вельмі цікавіла жыццё ў Народнай Польшчы, а асабліва Беласток і Саколка ў якіх яму давялося пабываць неаднойчы перад вайной. Заспакоіўшы го цікавасць я з не меншай цікавасцю пачаў слухаць расказ аб калгасе.

*

Зямля тут няважная, пясочная ды камяністая. Дзе-ні-дзе зрэдку расце ядловец.

— Каменні ёсць, ядловец свой, хлеба прыкупіць — жыць можна! — калісьці ў жарт гаварылі аб сабе тутэйшыя сяляне. І дадавалі: — А захацеў яшчэ, залезь на гару ды глядзі, любуйся цудоўным краявідам.

— Эх і жыццё было! — Бяда ды годзе. Вельмі-ж скупая была гэтая пясчана - камяністая зямелька.

Да вайны Магілянскія горы былі месцам выпасу авечак. Сярод іншых хлапчукоў сюды прыганяў і свае авечкі, з недалёкіх Магілян, Пеця — сын малазямельнага Іосіфа Дзеншчыкава.

З той пары прайшло многа год.

У 1952 годзе, жыхары суседніх з Магілянамі вёсак выбралі старшынёй узбуйненага калгаса дэмабілізаванага з арміі Пятра Іосіфавіча Дзеншчыкава.

Цяжкая гэта была праца, успамінае Пятро Іосіфавіч. Абшар зямлі не малы, усяго амаль тры з палавінай тысячы гектараў. А ў дзевяці вёсках калгаса большасць насельніцтва было цёмнае, прасякнутае рознымі забабонамі. Да таго яшчэ няправільнае вядзенне гаспадаркі папярэднікамі П. Дзеншчыкава, зарадзіла ў людзей нейкую абыякавасць да калектыўнага гаспадаравання.

— Уступіў у калгас? Ну, брат, бяры мяшок на плечы ды шагай у людзі! — безнадзейна гаварылі некаторыя.

Наступала першая веснавая сяўба. Адсутнасць на фермах саломы парадзіла нястачу гною.

Дзеншчыкаў, як добры гаспадар ведаў, што гэтая пясочная глеба, без угнаенняў не дасць ураджаю. Тады ён прапанаваў праўленню, з балот на палі вазіць торфу.

З вялікай неахвотай і паблажлівай усмешкай прынялі калгаснікі гэтую прапанову. Ведалі яны добра колькі на поле адной гаспадаркі трэба торфу, а што гаварыць аб усім калгасе.

Пётр Іосіфавіч ведаў, што ў кожнай вёсцы ёсць заўсёды некалькі такіх сялян, з якімі ўсе лічацца і даражаць іх думкамі. І ён дабіўся таго, што з ліку гэтых людзей былі выбраны члены праўлення і брыгадзіры. З другога боку яны адчулі ў Дзеншчыкаве сумленнага, стараннага, клапатлівага работніка і гэта іх прывабіла.

Тым не менш вынік першай восені быў вельмі нязначны. Напрыклад калгас пасеяў 1,6 гектара цукровых буракоў. Яны далі ўсяго толькі па 60 цэнтнераў з гектара, і для ўборкі прышлося наймаць людзей з іншых калгасаў — яшчэ не ахвотна йшлі людзі да працы.

Калгас пасеяў многа бульбы, старання дагледзеў яе і яна ўрадзіла. Гэта адразу паставіла на ногі жывёлагадоўлю. Каровы рэзка павялічылі надоі. Адкормленыя свінні прынеслі прыбытак. У банку на калгасным рахунку паявілася капейка.

У выніку, у параўнанні з мінулым годам на працадзень больш выпала, што дало калгаснікам упэўненасць: працуй, твая праца не прападзе! Паявілася актыўная група ў калгасе на чале з брыгадзірамі і комуністамі. З гэтай групай ужо лягчэй было старшыні прыступаць да далейшай барацьбы за лепшае, багатшае жыццё ў калгасе.

А ўсё-ж такі ў першы год старшыні калгаса ўдалося актывізаваць толькі нязначную частку насельніцтва. У гэтым ён пераканаўся калі ў калгасе пачалася будова гідраэлектрастанцыі. На яго вялікую крыўду святло правесці ў свае дамы згадзілася толькі некалькі гаспадароў.

— Патрэбна нам гэта! Яшчэ маланка вёску спаліць! — з апаскай гаварылі некаторыя.

Аднак усё-ж такі Дзеншчыкаву ўдалося прымусіць неабходную колькасць людзей пайсці на будаўніцтва ГЭС. Зараз яна абслугоўвае 4 калгасы.

Другі сельскагаспадарчы год закончыўся ўжо значным поспехам. На працадзень прышло па: 2 кілограма збожжа, 3 кілограма бульбы, 56 грамаў цукру і 2 з палавінай рублі грашыма. Гэта адразу змяніла становішча ў калгасе. Надышоў рэзкі пералом. Вырашылася праблема працоўнай дысцыпліны. Зацікаўленыя ў зарабатку калгаснікі пачалі хадзіць за брыгадзірамі і катэгарычна патрабаваць:

— Дай работу!

Абудзіліся нават старыя. Сямідзесяцігадовая бабка Раманоўская і чатыры гады старэй яе Юліян Вярышка аднойчы паскардзіліся старшыні.

— Чаму твае брыгадзіры нічога нам не даюць? Хочам працаваць і ўсё! — катэгарычна заявілі яны.

Прышлося бабку пасдаць на птушнік, а дзеду даць заданне: рабіць венікі і граблі. Абое яны выпрацавалі па 350 працадзён.

Атрымаўшы дастаткова рабочай сілы, калгас за другую зіму здолеў падрыхтавацца да вясны яшчэ лепш. Зноў будавалі і электрыфікавалі фермы, вазілі на палі торф, адкормлівалі свіней. Калгаснікам электрычнасць прышлася па густу так, што за некалькі дзён яе ўсе правялі сабе ў дамы, а праз два — тры тыдні ўжо не ўяўлялі сабе, як гэта можна жыць без электрасвятла.

— Дабіўся-такі свайго! — з захапленнем загаварылі адны пр Дзеншчыкава.

— Залаты чалавек! - дадавалі другія.

— І не злапамятны - заяўлялі трэція.

Так зацвердзіўся аўтарытэт старшыні. У калгаснікаў паявілася цвёрдая вера ў тую справу, якой ён кіраваў, прыадкрылася заслона той будучыні, аб якой дарэмна марылі дзесяткі пакаленняў дагэтуль. Члены калгаса адчулі сябе нованароджанымі людзьмі і ўсе да адзінага дружна ўзяліся за работу.

І так з года ў год павялічвалася маёмасць калгаса, узрастаў добрабыт, жыццё калгаснікаў ставалася лепшае, багатшае і шчаслівейшае.

Мінулае лета ў калгасе было выключна плённае. Восенню на адзін працадзень прышлося: 2,5 кг. збожжа, 3 кг. бульбы, 112 грамаў цукру, 1,5 кг кармоў і 8 рублёў грашыма. Агулам на адзін працадзень грашыма прышлося па 20 рублёў.

Калгаснік Уладзіслаў Казіміравіч Галаўня ў гэтым годзе з сям'ёй (сям'я 4 працаздольных людзей) выпрацаваў 2 925 працадзён. Пры разліку ён атрымаў: 7.312 кг збожжа, 9 тон бульбы, 260 кг цукру, некалькі тон корму для жывёлы і 25 тысяч рублёў грашыма. Пералічыць гэта ўсё на грошы дык выйдзе звыш 50 тысяч рублёў, інакш кажучы сям'я калгасніка Уладзіслава Казіміравіча Галаўні ў месяц зарабляла звыш 4.150 рублёў Гэта не малыя грошы. За іх можна нешта купіць, ды і жыць заможна.

Калгас стаў мільянерам. Калісьці масіўныя памешчыцкія пабудовы (быў тут маёнтак графіні Ляхніцкай), сялянам здаваліся вяршынай сельскагаспадарчай дасканаласці. Цяпер наяўнасць сродкаў у калгасе дала магчымасць пабудаваць фермы, якія перасягнулі памешчыцкія настолькі, наколькі калісьці тыя перасягалі ўбогія сялянскія хлявы з прагніўшай саломай на страсе і з выдзяляючыміся рэбрамі лат.

Пятро Іосіфавіч з ахвотай знаёміць нас з калгаснай маёмасцю. Вось мы зайшлі ў прасторны, чыста ўтрыманы, змеханізаваны свінарнік матачнага пагалоўя.

— Зараз у ім знаходзіцца 33 свінаматкі — расказвае нам свінарка Анна Іванаўна Задроўская.

Анна Іванаўна ўжо 7 год працуе свінаркай. Праз гэты час яна выгадавала звыш 5 тысяч парасят. Праўду кажучы Анна Іванаўна магла-б ужо і не працаваць. Дзеці ўжо вялікія пара было-б адпачыць. Аднак яна вельмі любіць сваю працу і ніяк не хоча расстацца са сваімі выхаванкамі.

Такіх як гэты свінарнік ёсць чатыры ў калгасе, і ўсе яны чысценька і гігіенічна ўтрыманы.

— Паспрабуй прыдзі да іх у брудным фартуху — дык і есць не захочуць, — ужо так звучаны — жартуе Анна Іванаўна.

Зараз калгас мае 666 штук крупнарагатай жывёлы (у тым 288 кароў) 868 штук свіней, 669 авец і 348 коней.

На 1960 год намечаны перспектывічны план развіцця жывёлагадоўлі: крупна - рагатай жывёлы — 710 штук (у тым 400 кароў), свіней — 2.000 штук і авец 700 штук. На канец пяцігодкі намечана атрымаць ад аднае фуражнае каровы 3.500 кг малака ў год (у 1956 годзе атрымана 2.505 кг).

Торф, якім некалькі год таму пасыпана поле таксама даў добрыя рэзультаты.

Калі ў 1951 г. у сярэднім з 1 гектара атрымана 8,2 цэнтнера зернавых, то ў 1956 годзе ў сярэднім з гектара выйшла па 13,6 ц. зернавых, а ў канцы пяцігодкі намечана атрымаць 17 ц. з гектара. Агулам у мінулым годзе атрымана 16.648 ц. зернявых. З гэтага 6 прац. аддана дзяржаве (за працу машын МТС і інш.), а 7.390 цэнтнераў выдана калгаснікам.

У мінулым годзе пасеяна 137 гектараў цукровых буракоў (зараз тут глеба так ператварылася што нават цукровыя буракі добра родзяць). Атрымана іх у сярэднім па 225 ц. з гектара. За буракі, якія продана дзяржаве атрымана звыш 904 тысячы рублёў. За буракі дзяржава ім прадала па зніжанай цане (3,80 руб. за 1 кг.) 40 тон цукру.

За табак, які пасеяна на 60 гектарах атрымана звыш 782 тысяч рублёў. Засаджана 24 гектары саду, заложана пасеку. Калгас закупіў 10 грузавых машын, 1 лёгкавую, 3 трактары. Маёмасць калгаса з года ў год павялічваецца.

Дзякуючы гэтаму, праяўленне калгаса ўжо зараз мае магчымасць падумаць аб тым, як павысіць узровень культурнага жыцця калгаснікаў. І гэта вырашана. Яшчэ ў гэтым годзе закончыцца пабудова двухпавярховага калгаснага дома культуры. Кошт пабудовы — 670 тысяч рублёў.

Заможнасць калгаснікаў можна пазнаць адразу, нават не заходзячы ў хаты. Вось напрыклад вёска Пракаповічы, дзе памяшчаецца праўленне калгаса. Падрамантаваныя жоўтымі латкамі, свежага дрэва дамы. У вокнах паблісхваюць цэлыя шыбы. Каля хат абноўленыя парканы. Нярэдка калгаснікі строяць зусім новыя дамы. Мясцамі валяюцца белыя стружкі, абрэзкі новага дрэва. Усё адбудоўваецца трывала, з запасам.

Над дахамі — густое сплячэнне правадоў, антэн (амаль у кожнай хаце ёсць радыё). Каля лесапілкі выстраілася калона калгасных аўтамашын. На вуліцы мноства веласіпедаў. Людзі акуратна апранутыя.

Увесь гэты малюнак жыцця сённяшніх Пракаповічаў і другіх вёсак калгаса, неяк удачна гарманіруе з ліпеньскім сонцам, ранняшнім спевам птушак і клекатам буслаў, якія важна шпацыруюць па стрэхах калгасных ферм.

Калі мы ад'язджалі, калгаснікі прасілі: перадайце нашае сардэчнае прывітанне сялянам Беласточчыны. Няхай прыязджаюць да нас у госці, паглядзяць як мы жывем і што мы асягнулі, дзякуючы супольнай калектыўнай працы. Прымем іх, як сваіх братоў.

В. БАРШЧЭЎСКІ.



*П. І. Дзеншчыкаў паказвае нам свінаферму*




## Арыя дырэктаршы



— «Пабеду мне, Пабеду!» (Вожык)

## Каханне ў растэрміноўку

Тое, што кішэнь у нас надта тонкая і, пакуль што, мы не можам купляць сабе чаго душа зажадае, гэта справа часовая. Гандлёвыя арганізацыі ідуць нам на рукі і некаторыя рэчы прадаюць нам з растэрміноўкай платы.

Хоча чалавек купіць касцюм — калі ласка, растэрміноўка на тры месяцы. Мэблявыя крамы даюць растэрміноўку платы на восемнаццаць месяцаў, мабыць таму, што мэбля не так патрэбная, як нагавіцы.

Скажу адкрыта мне растэрміноўка платы не падабаецца. Прычынай гэтага з'яўляецца каханне ў растэрміноўку.

Каб чытачам было больш зразумелым —. раскажу па-парадку.

Пазнаёміўся я з сімпатычнай паненкай. У хуткім часе наша знаёмасць перайшла ў гарачае каханне.

Праз месяц яна давала цалаваць свае пальчыкі. На другі месяц — падстаўляла шчаку. На трэці месяц дазволіла цалаваць у вушка. На чацвёрты месяц, калі паненка падставіла мне цалаваць вочкі, я не вытрымаў — панесла мяне халера.

— Грамадзянка мілая — кажу ёй. — у вас жа ёсць толькі частак як напрыклад у спальным камплекце й мэблевай краме, а я чатыры месяцы з вамі хаджу і не ведаю, калі да гэтага камплекта дабяруся. Скажыце грамадзянка адкрыта на колькі месяцаў растэрміноўку ўстанавілі?

А яна мне адказвае: — Па цяперашняй модзе ўсё на часткі дзеліцца. Калі вы нецярплівіцеся — значыцца вы не пасапраўднасці кахаеце і прашу растлумачыць, да якога камплекта вы дабіраецеся?

— Мілая грамадзянка — адказваю ёй. — кватэру маю, мэблю купіў у растэрміноўку платы, замест патэфона — канарэйку й клетцы трымаю і для камплекта мне вас не хапае. Дом без гаспадыні — гэта так, як хлеў без каровы.

— Не далікатна выражаецеся — скрывіла паненка губы.

— Зразумейце, грамадзянка не ў выражэннях справа. Справа ў тым, што я вас вельмі моцна і горача кахаю. Жаніцца спяшаю, таму што тэрмін платы за мэблю набліжаецца, маёй зарплаты мне не хапае. А так, як вы на пасадзе — то мы зможам заплаціць за мэблю і яшчэ мне паліто на зіму купім. На мае словы паненка пакруціла курносым носікам і гаворыць:

— Добра, што толькі да вачэй вы дабраліся, у мяне якраз іншыя планы на маю зарплату.

Так і закончылася гэтае гарачае каханне.

Цяпер дарагія чытачы. Вам зразумела мая нянавісць да растэрміноўкі платы.

Дзядзька Лявонь

К. Крапіва

## Вось такія дактары вымуць душу без пары

Не за сінімі марамі,
Блізка тут, не за гарамі,
Нехта з нашага жыхарства
Недзе шмат папаў лякарства
(Кажуць цэлую павозку)
Ды давай лячыць ім вёску.
І «ачуньваюць», ёсць слухі,
Людзі хворыя, як мухі.
Дзядзьку хворага, Сцяпана
Пасадзіў ён раз у ванну,
Паглядзеў і... што такое?
Усё зняло, нібы рукою.
Нават скуру, нават мяса...
Далей лечыць ён тым часам.
Вось другому дзядзьку Янку
Ён навёў лякарства шклянку;
Выпіў Янка — й фур за браму:
Зразу к праайцу Абраму
У нябеснае ён царства, —
Надта добрае лякарства!
Гэты доктар моцналобы
Ад жыцця і ад хваробы
Адратоўвае нямала;
Трэба, мусіць, трыбуналу
Прапісаць яму «мікстуру» —
Хай людзей не морыць здуру.



*Канікулы ці адпачынак?* Д. П.

## Адзін недахоп

Памяшканне ў нас вельмі добрае. Прасторнае, сухое, віднае, цёплае, — аднак мае адзін недахоп.

— Ну — ну, які?

— Што мы гаворым, то праз тонкую сценку ўсё чуваць у суседзяў.

— Ці-ж не можаце гэтай сценкі забіць напрыклад грубай дыхтай?

— Вось вам — яшчэ чаго! Тады мы нічога не чулі-б, аб чым яны гавораць. Р.

### Нашы жабракі

Першы жабрак: Вось пагана быць глуха-нямым: усё чуеш, а нічога ня можаш сказаць...

Другі жабрак: Яшчэ горай быць сляпым: на ўсё ўзірайся, заплюшчыўшы вочы.

### Штукары

— Бачыў я ў цырку штукара, цягнуў з рота стужку і выцягнуў мэтраў пяць.

— Э, гэта нічога! Вось у нашай краме штукары сядзелі. Тканіну цягнулі-цягнулі — мэтраў пяцьсот выцягнулі.

## Лянівая жонка

*(Беларуская народная песня).*




Ды нашто было гароды гарадзіць?
Ды нашто было капусту садзіць?
Прыпеў: Ай, люлі, люлюсенькі вы мае.
Ды нашто было капусту садзіць?
Не лянівая я у шнітачку[1]) хадзіць.
Прыпеў: Ай, люлі і г. д.
Як чужыя мужыкі ўсе дабры:
Пакуплялі сваім жоначкам бабры.
Прыпеў: Ай, люлі і г. д.
А як мой мужычок — дурачок,
Ды купіў ён мне каровачку.
Прыпеў: Ай люлі і г. д.
Ды купіў ён мне каровачку
На маю бедну галовачку.
Прыпеў: Ай, люлі і г. д.
Ды нашто-ж было гароды гарадзіць?
Ды нашто было капусту садзіць?
Прыпеў: Ай, люлі, і г. д.

1) *Шнітка — трава, з якой даўней у вёсцы галоднай вясной варылі страву.*

## РЭБУС



Гэты рэбус заключае ў сабе вядомую беларускую прыказку.

Сярод тых чытачоў, якія да 20 жніўня г. г. прышлюць правільныя развязкі, будзе разлясавана 10 кніжных узнагарод. Р.

## Развязка красворда

### з 26 нумара «Нівы»

МЯч, вяНок, расКазы, настАўнік, музыКанты, красУецца, пераПалох, парАшут, ВоЛга, рАк — адказ «Янка Купала».

Кніжныя ўзнагароды атрымалі: 1. Янка Андрэюк — Давідавічы, Бельскі павет. 2. Пятро Грыцук — Камень Ольштыньскі, 3. Люба Харкевіч — Эльяшукі, Гайнаўскі павет 4. Лявонь Стоцкі — Семяноўка, Гайнаўскі павет, 5. Марыя Базылюк — Маліннікі — Бельскі павет, 6. Барыс Парусоў — Саколка, 7. Уладзімір Жамойла — Остраў Полуднёвы, Сакольскі павет, 8) Янка Усціновіч — Сувалкі, 9. Лявонь Пень — Тафілаўцы, Гайнаўскі павет. 10. Валя Пшылажынская — Ціванюкі, Беластоцкі павет.

Узнагароды высылаем поштай. Р.

*Мілітарныя колы ЗША праводзяць рэдукцыю войскаў канвенцыянальнай зброі, замест таго ўводзяць ядзерную зброю.*




**Без подпісу**

Галоўны рэдактар ГЕОРГІ ВАЛКАВЫЦКІ

„NIWA" Organ Białoruskiego Towarzystwa Społeczno - Kulturalnego w Białymstoku. Adres redakcji Białystok, ul. Manifestu Lipcowego 25, tel. 25-89. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł kwartalna — 7.20 zł, półroczna 14.40, roczna 28.80 Prenumeratę przyjmują wszystkie urzędy pocztowe i listonosze. Wydawnictwo: RSW „Prasa". Prenumeratę ze zleceniem wysyłki zagranicę przyjmuje PKWZ „Ruch" Warszawa Należność wpłacać na konto PKO I-6-100024 Warszawa. Cena prenumeraty z wysyłką zagranicę wynosi: kwartalnie 10,15 zł, półrocznie 20,30 zł, rocznie 40,60 zł. Druk Białostockie Zakłady Graficzne, Nakład 5.205 T-12